Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

Па канфіскаце наклад другі.

Цана 15 гр.

# НАША ВОЛЯ

БЕЛАРУСКІ НЕЗАЛЕЖНЫ ДВУТЫДНЕВЫ ЧАСАПІС

Падпісная плата:
у год . . . 3.— зл.
за паўгоду . . 1.50 „
квартальна . . 1.— „

Рэдакцыя і Адмін.
Вільня,
Домініканская 17-12.

Рэдакцыя прыймае:
ад гадзіны 12—16
Рэдактар: ад 14—16

№ 11 (12) Вільня, 4 жніўня 1936 г. Год I.

## Адозва

### у справе агульнага кангрэсу міру

Мір, гэты найбольшы дабрадзей людзкасьці знаходзіцца ў вялікай небясьпецы. Ліга Нацыяў, гетае снарадзьдзе міжнароднай палітыкі, паўстаўшае пасьля крывавай вайны, каб шляхам згоды і спакою вырашаць усе канфлікты, перажывае цяпер глыбокі крызыс.

Урады некаторых дзяржаваў адкрыта імкнуцца да зрыву пакту Лігі і міжнародных трактатаў.

Вайну, гэтую найвялікшую ганьбу людзкасьці, некаторыя выхваляюць як быццам найцаньнейшае дасягненьне чалавецтва.

У абліччы такой сытуацыі заклікаем усе народы сьвету, усе арганізацыі, у праграмах каторых знаходзіцца абарона міру, каб аб'ядналіся і ўзгоднілі свае высілкі.

У якіх варунках можна ўратаваць справу міру? Можна ўратаваць яе толькі застасаваўшы наступныя чатыры прынцыпы:

1. Ненарушальнасьць забавязаньняў, якія вынікаюць з трактатаў;

2. Аграніччэньне і зьменшаньне зброеньняў шляхам міжнароднага паразуменьня і памяншэньне зыскаў, якія дае прадукцыя зброі;

3. Узмацненьне лігі Нацыяў дзеля недапушчэньня войнаў, ствараючы найкарысьнейшую арганізацыю агульнай бясьпечнасьці і ўзаемнай абароны;

4. Стварэньне ў межах Лігі Нацыяў адпаведнага апарату, як быў-бы здольны лагодзіць міжнародныя непаразуменьні, якія могуць выклікаць вайну.

Ніякі з гэтых прынцыпаў не накіраваны супроць аніводнага народу.

Наш рух імкнецца да зьдзейсьненьня поўнай роўнасьці усіх народаў і іх прадстаўнікоў.

Непадзельны мір, абыймаючы ўсе краіны нашае зямлі, зьяўляецца неадзоўным варункам карыснага і творчага супрацоўніцтва народаў.

У днях 4, 5 і 6 верасьня 1936 году адбудзецца сусьветны кангрэс міру.

Мужчыны і жанчыны, а перадусім Вы, моладзь, — узгадаваўцы работнікі, урадаўцы, працаўнікі, сяляне і інтэлігенцыя — пашліце сваіх дэлегатаў на Кангрэс. Няхай тысячы вашых прадстаўнікоў голасна выкажуць пачуцьці, напаўняючыя нас, няхай моцным ТАК дадуць зразумець ваенным падпальшчыкам, што ўвесь сьвет, як адзін чалавек, паўстане, калі адважацца яны падлажыць агонь пад нашыя хаты.

Бярэце ўдзел у Кангрэсе. Пашырайце ідэю Лігі Нацыяў і мірнага супрацоўніцтва. Закладайце гурткі супрацоўніцтва. Выбірайце дэлегатаў.

Пяцьсот тысячаў ахвотнікаў дапамаглі перамозе ангельскага плебісцыту ў справе міру, г. зв. „Peace Ballot". Прылажыце руку да перамогі сусьветнага плебісцыту ў справе міру. Не спыняйце арганізацыйнай працы.

Лёрд Робэрт Сэсіль (ініцыятар „Peace Ballot"; Пьер Кот (пасол; б. франц. міністр земляробства); Лявон Жуго (сэкрэтар проф. саюзаў Францыі); Адварды Эріо (б. францускі прэм'ер, дэпутат, мэр г. Ліёну): С. Грумбах (соцыялістычны дэпутат); Швэрнік (гэнэральны сэкрэтар проф. саюзаў СССР); Е. Борэль (сябра інстытуту); Шыхрана (старшыня ЦІАМАК-у, Чэхаславацыя); Рауль Обо (гэнэр. сэкр. францускай партыі Радыкал-Социялістаў); Лёран (старшыня к-ту міру); Пэтрэску (в.-старш. румынскай соцыяліст. партыі); С. Гюйсманс (бурмістр Антверпэну); П. Тшофэн (галяндыйскі сэнатар); Пілін-Ноэль Бакэр (Партыя працы Англія); Рэнэ Казін (Ф. І. Д. А. С.); Франсі Журдэн (сусьветны антываенны і антыфашыстаўскі камітэт); Пастор Езаквэль (міжнародная дружба цэркваў); Адварды Дэлядье (старшыня франц. радыкальна-сацыяліст. партыі): Поль Фор (гэн. сэкр. франц. сацыяліст. партыі); Марцэль Кашэн (палітычнае бюро франц. комуністычнай партыі.

Аб выбары дэлегатаў трэба паведаміць Ressemblement Universel pour le Paiv, Paris, 6 rue de la Paix.

(Пераклад з „Работніка").

# Сьцьверджаньні і вывады

*(на палях камунікату № 5 ЦКБНА)*

Грамадзкае жыцьцё ў Польшчы наагул, а асабліва ў нашым беларускім асяродзьдзі разьвіваецца за апошні час вельмі шпаркім тэмпам. Тое, што ўчора было толькі ў зачатку, у працэсе паўставаньня —сёньня вырастае да ўзроўня палючай, актуальнай праблемы.

Адсюль, перад грамадзкімі сіламі, якія хочуць пайсьці ў ногу з падзеямі, ня хочучы быць заскочаны фактамі, — вынікае неабходнасьць сачыць за тымі зьменамі, якія штодзенна адбываюцца.

Але сьцьверджаньне ўсіх зьменаў—гэта яшчэ ня ўсё, гэта яшчэ не абясьпечвае перад тым, каб не застацца за межамі кіпучага грамадзкага жыцьця. Толькі правільныя, адпавядаючыя імкненьням мас вывады са сьцьверджаньняў сьведчаць аб жыцьцёвасьці руху, аб яго шчырым жаданьні сьведама дзейнічаць на карысьць сваёй грамадзкасьці.

Апошні камунікат № 5 ЦКБНА (гл. „Бел. Крыніца“ № 31) з гэтага гледзішча зьяўляецца вельмі цікавым дакумэнтам. Ужо ад нейкага часу мы бачым тыя працэсы і зьмены праграмовага і тактычнага парадку, якія адбываюцца ў БНА. Мы можам быць згодны, ці ня згодны, але начуцьцё аб'ектыўнасьці кажа нам сьцьвердзіць, хоць вельмі паволі і нераўнамерна — аднак БНА пачынае бліжэй падыходзіць да пытаньняў, якія сапраўды непакояць нашыя народныя масы.

Яскравым прыкладам гэтага стану зьяўляецца такое сьцьверджаньне вышэй успомненага камунікату, што „змаганьні варожых сіл“ і напружаннасьць у міжнароднай палітыцы.. датычыць пасярэдна і безпасярэдна такжа і палажэньня Беларускага Народу, які хочучы (?!) ці ня хочучы можа стацца прадметам торгу і захопніцтва імпэрыялістычных кругоў“ (курсыў наш).

Гэтым сьцьверджаньнем кіраўніцтва БНА падыйшло да самага важнага — на наш погляд — да самага балючага пытаньня сучаснасьці нашага народу. Кожны, хто адкрытымі вачамі сочыць за працэсамі ў міжнародным жыцьці, бачыць: Тыя сілы, якія дасюль не ўважалі нас за самастойна існуючы народ, якія пры помачы розных расавых тэорыяў, вызначылі нам мейсца прыслужнікаў „вышэйшай“ расы — яны вельмі зацікавіліся намі, Беларусамі, І мы ў поўнасьці згодны з камунікатам БНА, што тут справа ідзе аб торгу нашай народнай доляй, аб захопніцкіх інтэрэсах імпэрыялістаў.

Але сьцьвердзіць гэта мала. Гэтакае сьцьверджаньне наказвае кожнаму палітыку, які хоча дзейнічаць згодна з імкненьнямі народу, зрабіць адпаведныя палітычныя і тактычныя вывады.

Такімі вывадамі, паводле нашай думкі, было-б: памагчы прабуджэньню пільнасьці народных мас, каб яны не дапусьцілі да торгу іх інтэрэсамі, каб хто-небудзь асьмеліўся бяз іх даверанасьці, гаварыць ад іх імя.

Ці зрабіў ЦКБНА гэтакія ці падобныя вывады? На жаль — не зрабіў, і што яшчэ горш — уважае за бязмэтныя ўсякія вывады ў гэтай справе

Бо якія могуць быць тактычныя вывады, калі ЦКБНА гаворыць, што наш народ, „хочучы ці ня хочучы можа стацца прадметам торгу?“ Гэтакім сьцьверджаньнем разброіваецца народ, бо яго воля быццам нічога зрабіць ня ў сілах. Гэта ў груньце ня верна! Трэба прыйсьці да народу, будзіць веру ў яго сілы, што калі ён не захоча, ён ня будзе безвольным прадметам торгу. Усякія торгі будуць тады „рахункам без гаспадара“.

Другім вельмі важным, своечасовым сьцьверджаньнем ЦКБНА зьяўляецца тое, што ён дэкляруе сябе, як стоячага „па той старане лініі фронту, дзелячага чалавецтва на дзьве часткі, — дзе няма зьдзеку, дзе няма выкарыстоўваньня ані фізычнага, ані духовага, дзе ёсьць прынцып справядлівасьці, свабоды“.

Гэтае сьцьверджаньне само-сабою мае бязумоўна вельмі вялікае значэньне. Тут перадусім ясна сказана, што БНА стае на старане супраціўнікаў фашыстоўска-ваеннай рэакцыі. Гэта, што датычыць сьцьверджаньня. Але тут адразу напрошваецца пытаньне: якія канкрэтныя, палітычна тактычныя вывады ЦКБНА робіць з гэтага важнага сьцьверджаньня? У гэтым-жа камунікаце адразу пасьля гэтага сьцьверджаньня чытаем: „Што датыча аднак канкрэтных формаў „народнага антыфашыстоўскага фронту“ палітыка БНА павінна трымацца свайго дасюлешняга становішча і далей, адносячыся да яго ўстрымана і крытычна, але аб'ектыўна...“

„Устрымана і крытычна“ — гэта ўсё практычнае, што вынікае з прынцыпіяльна-дэмократычных адносінаў БНА да народнага фронту! Чаму гэта так? Чым тлумачыць гэтакія адносіны да народнага фронту? Гэта таму, што паводле камунікату — народны фронт не выявіў канкрэтна сваю палітычную плятформу і не выказаў свайго становішча адносна недзяржаўных народаў і ў іх ліку і Беларускага Народу.

Выходзіць так, што народны фронт гэта папросту пусты звук і больш нічога. Бо не мае ён палітычнай плятформы, не заняў становішча па нацыянальнай справе. Аднак так ня ёсьць. Народнафронтавая праграма поўнасьцю адпавядае і грамадзка-палітычным і нацыянальна-культурным інтэрэсам Беларускага Народу. Але на хвіліну дапусьцім, што гэтак ня ёсьць, тады задачай БНА было-б чынна дамагацца гэтага, садзейнічаць пры апрацаваньні гэтакай праграмы. Аб гэтым аднак у камунікаце не гаворыцца. Ізноў маем справу з правільным агульным сьцьверджаньнем без адпаведных канкрэтных вывадаў,

Палітычна-грамадзкае жыцьцё мае сваю лёгіку: хто сказаў „А“ павінен сказаць „Б“. Гэтакая лёгіка забавязвае такжа правадыроў БНА: правільныя сьцьверджаньні дамагаюцца правільных вывадаў.

*Р. С—іч.*

## СЬВІТАЗЬ

Часам вецер расхінае хвалі жыта,
Выплываюць стрэхі шэрымі чаўнамі
І за жытнімі палямі, за гарамі
Сіняй казкай ў пералівах дрэміць Сьвітазь.
Дзень пайшоў лясным гушчарам сьцежкай бітай.
Хтось пяяў ў далі працяжна і узорна
Ў шуме ночы неспакойным ў шуме зорным
Мо спаткаю, прывітаю цябе, Сьвітазь.

Раскажу табе ў загары
Аб чым кагаркі раз пелі,
Пра рыбацкія арцелі,
Раскажу табе пра Нарач
І аб тым, як мы ўставалі
Ў дзень пануры і ў дзень шэры
І як біліся у бераг
Узбунтованыя хвалі.
Ты прыслухаешся срэбрна
Не задрэміш посля вестак
Закалышча лесам ветак
Твой алешнік сіня — зрэбны.

Вецер гладзіць хмараў цені, мора жыта.
Зноў гасьцінцам ў даль шырокую плятуся.
Выплываюць вёскі, сёлы, Беларусі
Сіняй казкай ў пералівах дрэміць Сьвітазь.
Мо прыйду к табе я зноў дарогай бітай.
Калі зорная на хвалях ночка ляжыць
І аб чым яшчэ прачнуўшыся раскажыць
Твой чарот пужліва – шумны, Сьвітазь?

Світазь 1936 г. *Максім Танк.*

* * *

*(з поэмы „Нарач“ частка III, 4)*

Ёсьць на прадвесьні чароўныя раньніцы,
Ясныя раньніцы, дні;
Ў сонцы срэбрыста сьнягі загараюцца
Топяцца ў белым агні.

Часам з прыдаўляных сумам яхопляных
Вырвецца песьня з грудзей, —
Ёсьць у жыцьці нашым зрэбным і стоптаным
Шмат яшчэ ясных надзей!

Хутка падымуцца хвалі крынічныя,
Наша — працоўных вясна
Ўдарыць у межы . . . . . . . . . . . . . . .
Устанім тады, Старана!

23–VII–36 г. *Максім Танк.*

* * *

Жыву, працую ў нявыгодзе.
Ўжо досыць сяньня не змаўчу!
Хачу быць вольным на свабодзе
і жыць свабодна я хачу!

Хачу каб згінула нароўнасьць
і гора цяжкае і зьдзек,
Каб не ўпрагаў ў ярмо няволі
больш чалавека чалавек.

*Антось Чаромхін.*

## СЬВІТАНЬНЕ

Чырвоным полымям заліты небасклон,
і стужкамі пурпуру зьзяюць хмары.
З-пад люстраў рэк, вазёр, з-над фабрыкаў вакон
б'е пара, дым, агні, нібы пажары.

Налёгшы чорнай плямаю абман,
змываецца з павек ірдзістаю расою;
а бледна-сіні сну туман
разьвеяны жыцьця зарою.

Мацней б'е пульс крыві, разгортваюцца плечы,
І рукі спочаныя ўзносяцца ўсё вышэй, вышэй,
каб кроўю выпісаць на небе знак: сьвітаньне.

1936 *Ул. Гуль.*

* * *

Ня з пышнай славаю іду к табе
працоўна Беларусь!
Іду я з песьнямі, што выкуў мазалямі —
падгніўшае жыцьцё пажарам сэрца плавіць
іду к табе процаўна Беларусь!
Цярпець...

О, гэта сказ рабоў, рабоў пакорных,
Мыж полымя зары жывога пакаленьня!
Чым ноч цямней — ярчэй распалім горны!
Аслепім сонцам лёхі сутарэньняў.

— Мы — госьці на зямлі... Як гэта ўсё наіўна...
Ня госьці мы — жыцьця гаспадары!
Жывы акорд магутнай песьні пераліў'най
За лепшы дабрабыт под сонцам — змагары!

Ня з пышнай славаю іду к табе я
Беларусь сярмяжна.
Давалі душы нам жабрацкі дзень іржавіў
Мы жылістай рукой згняцём свой лёс прадажны
Будуем новы гмах бяз сьлёз і жалю...

І павядуць вякі нас
Уперад шляхам зорным.
Пакінуўшы далёка ўспамінаў горкіх сьлед.
Трахнуўшы залатою грываю задорна
Ярчэй памчыцца сонца між плянэт!

*М. Васілёк.*

МАКСІМ ГОРКІ

# Песьня аб Сокале

Мора дрэміць.

Агромнае, ляніва уздыхаючае тут каля берагу, яно ўжо заснула і не шалахнецца ў далі, аблітай сінім зіяньнем месяца. Аксамітнае — мяккое і чорнае яно зьлілося там з сінім паўдзённым небом і моцна сьпіць адбіваючы ў сабе празрыстую ткань пярыстых хмараў непарушных і закрывачых сабой залатых зорных узораў. Здаецца, што неба ніжэй нахіляецца над морам, хочучы зразумець тое, аб чым шэпчуць неугамонныя хвалі, сонна напаўзаючы на бераг.

Горы, парослыя дрэвамі, фантастычна павыгінаныя норд-остам, вострымі ўзмахамі паднялі свае вяршыны ў сінюю пустыню над імі, і сухія, срогія контуры іх акругліліся, адзетыя цёплай і ласкавай імглой паўдзёнай ночы.

Горы важна — задумчывы. З іх на прыгожыя грэбні хваляў палі чорныя цені і убіраюць іх, быццам хочучы ўстрымаць гэты адзіны рух і заглушыць неўгамонны плёск воды і ўзохі пены, — ўсе галасы, якія нарушаюць таямнічую цішыню, разлітую кругом з сінім зіяньнем месяца, яшчэ схаванага за горнымі вяршынамі.

— А–ала–ах–а–акбар! — ціха ўздыхае Надыр-Рагім-Оглы, стары крымскі чабан заўсёды мінорна настрояны, высокі, сівы, спаляны паўдзённым сонцам, сухі 'і мудры старык.

Мы з ім ляжым на пяску, каля вялікага камня, што адарваўся ад роднай гары, адзетага ценьню парослага мохам і таксама сумнага і панурага. На той яго бок, які адверняны да мора, хвалі накідалі ціны і вадаростаў, абвешаны імі камень здаецца прывязаным да вузкой пяшчанай палоскі якая аддзяляе мора од гор. Полымя нашага агню асьвячае яго з таго боку, якім ён адверняны да горы, яно хвалеюцца і па старому камню парезанаму густа сеткай глыбокіх трашчын бегаюць цені. Ён здаецца думаючым і ўсё адчуваючым.

Мы з Рагімам варым уху з тольկі-што налоўленых бычкоў і абое знаходзімся у тым вынятковым пастроі, калі ўсё здаецца празрыстым, адухоўленым, дазваляючым заглыбіцца ў сябе, калі на сэрцы, так чыста, лёгка і няма другіх жаданьняў як жаданьня думаць.

А мора ласьціцца к берагу, а хвалі гучаць так мэлянхалічна— ласкава быццам просяць пагрэцца кала агню. Час ад часу ў агульнай гармоніі плёску чуецца больш павышаная, неспакойна - вясёлая нота-гэта адна з хваляў сьмялейшая падпаўзла бліжэй да нас. Рагім ужо параўнаў хвалі з кабетамі і западазрыў іх у тым, што яны хочаць абняць і расцалаваць нас.

Ён ляжыць грудзьмі на пяску, галавой к мору і задумана глядзіць у мутную даль апёршыся локцямі і палажыўшы галаву на далонях. Кудлатая бараньняя шапка зьехала яму на патыліцу і з мора веіць сьвежасьцю у яго высокі лоб, увесь у дробных маршчынах. Ён філязофствуе не гледзячы на тое ці я яго слухаю і не зварочваючы на мяне нінайменшай увагі быццам ён гавора з морам:

— „Верны Богу чалавек ідзе ў рай. А каторы ня служыць Богу і прароку? Можа ён вось у гэтай пене... І тыя срэбрныя плямы на вадзе моён — жа... хто ведае“?

Цёмнае магуча размахнуўшыся мора сьвятлее, мяйсцамі на ім зьяўляецца нядбала кіняныя яркасьветлыя адлюстраваньні месяца.

Ён ужо выплыў з-за кудлатых вяршын гораў і цяпер задумчыва ліе сваё сьвятло на мора якое ціха ўздыхае, яму на спатканьне.

— Рагім... Раскажы, казку... — прашу я старыка.

— Пашто?—пытае Рагім не адварачяваючыся да мяне.

— Так! Я люблю твае казкі.

— Я табе ўжо усё расказаў... Больш ня ведаю... Гэта ён хоча каб я папрасіў яго. Я прашу.

— Хочыш, я раскажу табе песьню згаджаецца Рагім.

Я хачу слухаць старую песню і ён сумным расьпевам, стараючыся захаваць своеаблівую стэповую мэлёдыю песні і страшна перакручаючы расейскія словы расказвае.

I.

„Высока ў горы ўпоўз Вуж і лёг там ў сырым міжгор'і скруціўся гледзючы у мора.

„Высока ў небе зіяла сонца і сьпекай горы палілі неба і хвалі біліся аб камень.

„А па міжгор'ю ў імгле і ў прысках, праз скалы, камні паток імчаўся па сустрэч мору.

„Весь ў белай пене, сівы і дужы ён рэзаў горы з сярдзітым шумам каціўся ў мора.

„Дзе Вуж скруціўся, на скалы раптам, з грудзьмі разбытымі ўпаў Сокаль з крывёй на пер'ях“.

„З кароткім крыкам ён ўпаў на скалы, грудзьмі ён біўся ўбясьсільным гневе аб цьвёрды камень.

— „І Вуж спужаўся одпоўзды хутка вярнуўся, — ўбачыў што жыцьця птушкі дзьве - тры мінуты...

„Падпоўз бліжэй ён к разьбітай птушцы і прасіпеў ён ей проста ў вочы:

— „Што паміраеш?

— „Так, паміраю! — сказаў глыбока ўздыхнуўшы Сокал“—Пажыў я слаўна!.. Я ведаў шчасьце!... Адважна, біўся!. Я бачыў неба... Ты не ўбачыш яго так блізка!... Эх, ты, бядняга!

# На новы шлях

Ня гледзючы на цяжкія матэрыяльныя і вонкавыя абставіны беларускай мастацка-літэратурнай прэсы, — мы можам сьцьвердзіць, што апошнімі часамі на літэратурным фронце мы маем досыць значны зрух наперад. Павялічваюцца рады пісьменьнікаў, паэтаў, публіцыстаў, згуртаваных каля „Калосься“, Нашай Волі“, „Шляху Моладзі“, якія прыносяць з сабой ня толькі багаты сыры жыцьцёвы матэр'ял, але і досыць высокамастацка апрацованыя творы.

Аднэй з найбольшых заган, — адсутнасьць такой літэратурнай прасы, якая-б магла скуць гэтыя маладыя кадры ў адно цэлае, узгадаваць іх, даючы здаровую ацэну іх творчасьці, памагаючы ня толькі ў тэхнічнай працы, але і стаць на тую адзіную дарогу, па якой ідзе народ сяньня да лепшага заўтра.

Зразумела, што гэта заданьне: кансалідацыі ўсіх беларускіх літэратурных сілаў ня толькі ляжыць на часапісах, — гэта заданьне перадусім нашых пісьменьнікаў, паэтаў, літэратараў, публіцыстаў. Мы яго мусім выпаўніць, закладаючы саюз беларускіх пісьменьнікаў, які паслужыць запярукай як і далейшага росту нашых літэратурных кадраў, так і ўсебаковага росту літэратуры і замацаваньня сяньня ўжо здабытых пазыцыяў.

*Максім Танк.*

P, S. Пажадана, каб кожны з беларускіх пісьменьнікаў у прэсе выказаў свой пагляд у гэтай справе.

# Як мы жывем

*(з пісьма вясковага бедняка).*

Сенажаці ўжо ажылі, распачалос жніва, а хутка і бульбу трэба будзе капаць. У беларускай вёсцы праца на полі, а асабліва зьбіраньня з поля кожны чакае па свайму. Паны чакаюць гэтага з радасьцяй у душы, наперад прадбачучы новыя даходы ад сабраннага ўраджаю. Большая частка нашага сялянства вялікіх надзеяў на ўраджай са сваіх вузкіх і бедных шнурох ня мае. Бо-ж нават малы разумее, што там дзе, мала зямлі, там яна найгорш і родзіць. Ральля патрабуе добрае абробкі, добрага ўгнаеньня А адкуль усё гэта ўзяць? Як-жа можна ўтрымаць больш жывёлы, калі нават людзям няма чаго есьці. З пустога не нальеш! Аб тым, што становішча сялянства цяжкое і няма ніякай надзеі на яго палепшаньне, аб гэтым ня можа не ўспамянуць нават самая консэрватыўная прэса, аб гэтым пішуць усе, аб гэтым гавораць і ўрадавыя дзейнікі. Бязьзямельле, таннасьць земляробскіх прадуктаў, не даюць селяніну магчымасьці заспакоіць найпільнейшыя патрэбы гаспадаркі і сям'і. Як заплаціць падаткі, даўгі, працэнты, усялякія штрафы, за што направіць прылады, за што купіць солі (аб цукры гаварыць не выпадае), газы, сярнікаў, махоркі, — вось штодзенныя пытаньні, якія ня выходзяць з сялянскае хаты.

Пераважная частка сялян чакае дзеля гэтага сазону палявых работ, каб зарабіць пару грашоў на гэтыя самыя неабходныя рэчы. Асабліва чакае гэтае работы сялянская моладзь, якая апрача ўсяго мае свае асабістыя патрэбы, якіх ніяк ня можа заспакоіць з бацькаўскае гаспадаркі.

Але за апошнія гады наагул цяжкае становішча сялянства яшчэ больш пагоршылася. Абшарнікі і багачы, якія зьяўляюцца працадаўцамі ў сэзановой рабоце, выкарыстоўваюць цяжкія матэр'яльныя абставіны сялян. Вызыск гаротнага сялянства прыбірае пры гэтым розныя формы. Апошнімі часамі ўсё больш практыкуецца так званы адробак. Шмат сялян бярэ вясной у багачоў прадукты, збожжа, насеньне, загон зямлі пад лён або бульбу і г. д. За гэта трэба адрабіць у тры, чатыры разы больш чым варта пазыка. А адрабляць прыходзіцца ў самы гарачы час, як сенакос або жніво — тады, калі толькі і можна было-б нешта зарабіць на старане.

Заработная плата сэзановага работніка вёскі з кожным годам зьмяншаецца, а варункі працы ўсё пагаршаюцца. Працадаўцы выкарыстоўваюць нясьвядомасьць, адсталасьць і неарганізаванасьць сялянства. Хто ня ведае такога спосабу, што за грошы, або чарку гарэлкі гаспадар падкупляе касца, або жняю каб тыя заўсёды былі наперадзі і такім чынам усе павінны былі-б з імі раўняцца. Тая работніца, якая адстае, на другі дзень не прымаецца на работу. Пры шаленай сьпешцы часта здараюцца розныя калецтыв, надрываньні і хваробы на ўсё жыцьцё.

Але нават цяжка запрацаваная мізэрная плата не заўсёды выплачываецца своечасна, а часта і зусім гіне.

Палепшаньне ўмоваў працы на чужых палёх знаходзіцца ў руках самых работнікаў. Каб ня быць вызысканымі і мець карысьць з свае працы, сэзановыя работнікі вёскі павінны спаткаць работы на палёх арганізавана. Толькі ў арганізацыі сіла і толькі тады працадаўца будзе лічыцца з працоўнымі. Самі багачы з сваімі сем'ямі ня ўправяцца з работай на палёх, і за працу наёмных сэзановых работнікаў змушаны будуць заплаціць столькі, сколькі належыцца за працу сэзаноўца. Трэба супольна дагаварывацца з працадаўцам аб варунках працы і аб плаце. Асноўным дамаганьнем павінна быць павялічэньне заработнае платы, супроць адробаў улетку, супроць шалёнай сьпешкі ў працы, унармаваньне рабочага дня, 2-х гадзінны спачын на абед, за людскія адносіны да работнікаў і шэраг іншых справаў гледзячы на мяйсцовыя варункі.

У салідарнасьці ўсіх работнікаў і ў сіле іх арганізованасьці ляжыць паправа іх працоўнага жыцьця.

I. К.

# Паштовая скрынка.

Дзік. За карэспандэнцыю дзякуем, хаця парушаная тэма і была разгледжана ў аднэй з нашых перадавіц, але некаторыя факты выкарыстаем. Верш лепш апрацоўвайце, як з боку ідэолёгічнага так і з боку формы. Апошнія шмат лепшыя, як папярэднія. Радзім яшчэ больш працаваць у гэтым напрамку.

Сьцяпан Станкевіч. Тое, што пішыце ў сваім пісьме, ужо было няраз сказана і ў больш цэнзуральнай форме. Чакаем на карэспандэнцыю.

Раман Вокаў. Карэспандэнцыю п. з. „Фронтам да ўсі“ выкарыстаем.

Р. Вокаў. Карэспандэнцыі з вядомых прычын зьмясьціць ня можам.

Ул. Гуль. За прывітаньні і шчырае пажаданьне дзякуем. Вершы друкуем. Матэр'ялу чакаем.

Знаёмы: Калі зачыняны ў вас культурна-прасьветныя арганізацыі дык гэта ня знача, што ня трэба нічога рабіць; перадусім трэба на нова падняць культурную працу на вёсцы, выпісваючы беларускую прэсу, арганізуючы самаадукацыю.

Скідзельская моладзь, Прозьбу споўнім. Інфармацыі і статут аб залажэньні гуртка ТБШ прышлём.

Янка Каліна; А. Ч. Газэту вышлем. Вершы слабыя, некаторыя матэр'ялы выкарыстаем. Больш чытайце больш апрацоўвайце свае матэрі'ялы.

Быўшы. За прывітаньні дзякуем. З карэспандэнцыі не скарыстаем. Радзім пашыраць сваю беларускую прэсу.

Званар. Калі пісалі вам адарвацца ад кветак і другіх прылад, дык гэта значыць, што мусіце пісаць аб тым жыцьці, якое акружае вас і мовай больш зразумелай.

# Літэратурны конкурс.

Рэдакцыя „Нашай Волі“ вызначыла тры нагроды за найлепшае апавяданьне з акрэсу летніх працаў па вёсцы.

Апавяданьні прысылац пад сваім дэвізам з далучаным у запячатаны канверт прозьвішчам і дакладным адрэсам аўтара; на канвэрце таксама павінен быць напісаны дэвіз апавяданьня. Пажадана, каб апавяданьне можна было зьмясьціць у падвале аднаго, найболей 3-х нумароў газэты.

Бяручы пад увагу час гарачай працы на вёсцы, тэрмін прысылкі апавяданьняў перасоўваецца да 1 сьнежня 1936 г.

— „А што-ж там неба? — пустое мейсца... Як мне там поўзаць? І тут мне добра... вільготна, цёпла!

„Так адказаў Вуж свабоднай птушцы замаячаньне ў душы ен разсьмеяяўся.

„І так падумаў: „паўзі ці лётай канец вядомы: ў зямлю ўсё ляжыць ўсё пылам будзець“...

„Ды раптам Сокал устрапянуўся падняўся трохі і па абрывах павёў вачамі.

„Праз шэры камень вада лілася і было душна ў міжгор'і цёмным і пахла гнільлю.

„І крыкнуў Сокал з тугой і больлю сабраўшы сілы.

— „Яшчэ каб ў неба хоць раз падняцца!... Ды ранаў ворага прыціснуў і... захлябнуўся-б маёй ён кроў'ю... О, шчасьце бітвы!..

„А Вуж падумаў: „мо' праўда ў небе так жыць прыемна, калі так раняны нат стогнець“...

„І ён парадзіў свабоднай птушцы: „А ты падсунься на край абрыву і ў ніз кідайся“.

„Цябе мо крыльля яшчэ падымуць і пажывеш ты яшче хоць троху ў тваей стыхіі.

„І здрогнуў Сокал, і слаба крыкнуў, пайшоў к абрыву па вострых скалах па сьлізі камня.

„І падыйшоў ён, расправіў крыльля, грудзьмі ўздыхнуў ён, вачыма блiснуў і ў ніз скаціўся.

„Зламаўшы крыльля, згубіўшы пер'я на сьлiскіх скалах і сам ён хутка як камень падаў.

„Патоку хваля яго схапіла і, кроў абмыўшы, убрала ў пену і ў мора вынясла бурліва.

„А хвалі мора з патурым смуткам сярдзіта біліся аб камень... І не відаць было трупа птушкі ў марскім прасторы...

II.

„Ў сырым міжгор'і, Вуж доўга думаў аб сьмерці птушкі і аб парыве ў даль, у неба.

„І вось ён глянуў ў прастор далёкі, што лятуценьнем галубіць вочы.

— „І што ён бачыў, памёршы Сокал, у пустыні гэтай бяз дна і краю? Чаму такія, як ён, памёршы сваім каханьнем прастораў сініх, душу хвалююць. Што ім там ясна? І я ўсё гэта ўбачыць мог бы, узьляцеўшы ў неба хоць не на доўга.

„Сказаў і хутка скруціўся пругка ў наветра скочыў, вузкай істужкай бліснуў на сонцы.

„Хто век свой поўзаў — ляцець ня можа!.. Забыўшы гэта ён ўпаў, на камень, ды не забіўся, а разсьмяяўся.

— „Вось у чым спакуса палёту ў неба! Яно ў падзеньні!.. Сьмешныя птушкі! Зямлі ня ведаючы, горда яны імкнуцца высока ў неба, жыцьця шукаюць у пустыні сіняй. Там толькі пуста. Сьвятла нямала, але няма там апоры, ежы жывому целу. Пашто-ж ім гордасьць? Пашто дакоры? Хіба каб ім іскрыць тую пустку сваіх імкненьняў, схаваць за імі сваю нягоднасьць для спраў жыцьцёвых? Сьмешныя птушкі!.. Цяпер іх словы не ашукаюць мяне ўжо болей. Я ўсё убачыў жыцьцё і неба Падняўся ў неба, яго я зьмерыў, пазнаў упадак, ды не разьбіўся і ў свае сілы мацней я веру. Хай лягуценьнем жывуць ўсе тыя, зямлю хто моцна любіць ня можа. Я праўду бачу і іх прызывам я не пяверу. Зямля стварыла—зямлёй жыву я.

„І ён скруціўся ў клубок на камні з задаваленьнем.

„Блісьцела мора ў сьвятле срабрыстым і грозна білі аб бераг хвалі.

„Ў іх львіным рове грымела песня, аб гордай птушцы, дрыжелі скалы ад іх udараў, дрыжэла неба ад грознай песьні:

„Парывам сьмелых пяём мы славу!

„Парывы сьмелых—жыцьця крыніца! О сьмелы Сокал! У баю няроўным ты паў разьбітым... Ды яшчэ прыйдуць часы другія — і плямы крыві тваёй гарачай, як іскры ўспыхнуць у жыцьці панурым і шмат запаляць грудзей жаданьнем сьвятла, свабоды!

„Няхай памёр ты!.. Ты ў песьні сьмелых і моцных духам заўсёды будзеш жывой паходняй, прызывам гордых к святлу к свабодзе!

„Парывам сьмелых пяём мы песню“!

Маўчыць апалёвая даль мора, мэлянхалічна плёскаюць на пясок хвалі, і я маўчу гледзючы на Рагіма, які кончыў расказваць мору песню аб Сокале. На вадзе ўсё больш срэбрных плям ад праменьняў месяца... Наш гаршок ціха закіпаіць.

Адна з хваль гульліва ўскачываіцца на бераг і, выклікаючы з шумам, паўзе к галаве Рагіма.

— Куды ідзеш?.. Пшышла! —махае Рагім на яе рукой і яна пакорна коціцца назад у мора.

Мне зусім ня сьмешным і ня страшным здаецца выбрык Рагіма які адухаўляе хвалі. Усё, навокал глядзіць дзіўна — жыва, мякка, ласкава. Мора так уплывова спакойнае, і адчуваецца, што ў сьвежым дыханьні яго на горы, яшчэ не астыўшыя ад дзеннай сьпекі, скрыта шмат магучай, стрыманай сілы. Па цёмна сіняму небу залатым узорам зораў штось напісана урачыстае, чаруючае душу, змучаючае розум салодкім чаканьнем нейкага аб'яўленьня.

Усё дрэмець але дрэмець напружана-чутка, і здаецца, што вось у наступную сэкунду ўсё ўзварухнецца і загудзіць у прыгожай гармоніі нявыслоўна салодкіх гукаў. Гэтыя гукі раскажуць пра тайны сьвету, выясняць іх вуму, а пасьля згасяць яго як празрысты аганёк і ўцягнуць з сабой душу высака ў цёмна сінюю пропасьць адкуль на спатканьне ей зораў пераліўныя ўзоры таксама будуць гучэць дзіўнай музыкай аб'яўленьня.

Пераклаў *Максім Танк*

